# Аршанскі
# МАЛАДНЯК.

№ 3 (5)

Выданьне Аршанскай філіі Маладняка
ГОРКІ, 1926 г.

# Зьмест.

Стар.



Горрайлітбел № 20612, зак. № 220 — 1000 пр. Горкі, дру...

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся.

# Аршанскі МАЛАДНЯК.

Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў МАЛАДНЯК.



№ 5 (3) | СЬНЕЖАНЬ | 1926 г.



Б. Стасевіч.

## Чарговыя задачы Аршанскай філіі Маладняка.



Б. Стасевіч.
Адказны сэкратар Аршанскага Акругкому КП(б)Б.

Аршанская філія Маладняка — яшчэ маладая па ўзросту і ня досыць акрэпшая ўнутры організацыя. Яна яшчэ ня вышла з організацыйнага пэрыяду на шырокі шлях творчай прадукцыйнай працы. Тыя невялікія дасягненьні, як утварэньне гурткоў, выпуск 5 №№ часопісі, частковага прасочваньня філіі ў некаторыя раёны, ужо сьведчыць, што філія становіцца на правільны шлях, — шлях пралетарскай культуры

Было-б вялікай памылкай думаць, што філіяй ужо ўсё праароблена для популярызацыі яе сярод шырокіх колаў рабоча-сялянскіх масаў акругі. У першую чаргу трэба будзе завязаць сувязь і атрымаць здаровую пралетарскую закалку ад насіцеляў, ахаванцаў пралетарскай дыктатуры—шырокіх колаў рабочых. Копыскі ізразцова-кахляны завод, „Чырвоны Кастрычнік", „Дубровенская Мануфактура" і чыгунка павінны зьявіцца асноўнымі кадрамі, галоўнымі рэзэрвамі па папаўненьню маладнякоўскіх шэрагаў.

Вельмі мала зварачвалася увагі і на бедняцка-серадняцкую частку сялянства, якая сумесна і пад кіраўніцтвам рабочае клясы дапамагае будаваць новае жыцьцё на комуністычных началах. Прасякнутая дробнабуржуазнымі і прыватна-ўласьніцкімі прэдразсудкамі, яна асабліва адчувае патрэбу ў ідэолёгічнай дапамозе, каб выйсьці на правільны шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі філія будзе варыцца ў сваім уласным саку і ня будзе шукаць і наладжаваць сувезяў з шырокімі коламі рабоча-сялянскіх мас, — яна не

апраўдае тых надзей і спадзяваньняў, якія ўскладае на яе мясцовы акруговы камітэт компартыі. Трэба рашуча і безагаворачна адмовіцца ад празьмернай асьцярожнасьці і залішняй падазронасьці пры прыёме новых сяброў філіі. Складаная і супярэчная абстаноўка капіталістычнага акружэньня і НЭП'у, ва ўмовах якой прыходзіцца будаваць соцыялізм ў аднэй пакуль-што краіне, стварае цэлы шэраг цяжкасьцяў і перашкод. Крызіс „Маладняка“ і организацыя „Узвышша“ адбіваюць супярэчнасьці і цяжкасьці гэтага пераходнага пэрыяду ад капіталізму да соцыялізму.

Аб'ектыўна і суб'ектыўна вышоўшая з „Маладняка“ група таленавітых пісьменьнікаў адбівае рост і разьвіцьцё дробна-буржуазных настрояў і надзеяў у Савецкай Беларусі. Каб умець разьбірацца ў сучасных складаных абставінах і знаходзіць правільнае вырашэньне, трэба быць марксысцкі добра падкаваным. Вывучэньне Маркса, Энгэльса і Леніна палягчыць разьвязаць гэтую задачу і дасьць безпамылковае вырашэньне, што-ж датычыць прадукцыі філіі, якая не-блага адбівае асаблівасьці пераходнага пэрыяду, дык з пункту гледжаньня комуністычных задач, яна не заўсёды дае правільныя, здаровыя адказы і парады сваім чытачом. Налічча ў некаторых творах упадачных настрояў, пэсымыстычных нотак, дробна-буржуазных сумняваньняў і хістаньняў ставяць перад філіяй ва ўсю шырыню пытаньне аб стандартызацыі, лепшай якасьці сваёй прадукцыі.



А. Вечар.

# Нашы акорды.

**Прысьвячаю Ў. Ў. Прыбыткоўскаму.**

Мы знаёмы ўсе з пакутаю.
Кожны са зьдзекам
Змагаўся дзесьці:
Хто на волі,
Хто ў турмах закуты
Мы гэтай плянэты дзеці.

І затым,
Што дабра ня бачылі,
Сьвет скалыхнулі
Ў магутным акордзе —
— ў 17-ым годзе,
Пад брэх сабачы,
Білі сьвету старому па мордзе.

І зьвінеў нам у сэрцы тэрцыяй
Сьцягаў чырвоных
Зіхаючы колер,
А потым—
— адны
— другія
— трэція
Цягаліся роднай краіны полем.

Перайшлі і сваімі крокамі
Многа стапталі,
Зглумілі жыта.
А цяпер мы крыць новымі кроквамі
Будову сталі.
Усё пражыта!

Мы-ж не зрабіліся іншымі...
Хіба ня йдзём мы
Цяпер у гору
— і вышай
— вышай
Вышай,
Штотыдня, штодзённа
І скора.

Ну, дык давайце-ж песьнямі
Яскрава аздобім
Жыцьця акорды!
Што? Буржуі? З намі цесна ім?
З такімі пакуль што добрымі.

Гэй, вы,
      разьзявы!
Закрыйцеся коўдраю
З жахам сьмярцельным
Заткнуўшы вушы
Нашае моцы і працы акордамі
Мы вас аглушым,
                задушым!

Чуеце, чуеце гэтую музыку
Што, як лады,
Пералічыць вам рэбра.
Хіба мінулае вернеце гузікам
Золата,
      медзі
            ці срэбра.

Гэй вы, гной і грашовая здрада,
Крывею працоўных тлустая!
Мы нейкалі песьню спаём,
А на вас парасьце капуста,
І зямля будзе
            рада,
                  рада,
                        рада,
Што ня будзе па ёй
Хадзіць паскудзтва.

Прыбыткоўскі.

# Паскуднікам.

Эй... вы!
Што ў вёсцы
і ў горадзе,

што сьлёзы дзедаўскія
сеецце па пяску

вам кажу
трэба сьвет
біць
па мордзе

і без ваганьня
прыстаўляць
наган к віску.

Трэба ўмець
і плакаць
і сьмяяцца,

трэба ўмець
змагацца
без вайны.

А ваш „плач асеньні“
ля здаровых
трасца.

Кіньце пісаць
вершам вершы
„бал...ваны!“

Вы!
што у „кляновым лісьці“
распусьцілі нюні

і складаеце!
пад катарынку
„Вершы“

І злажыўшы рукі
над гнілою
пуняй

плачаце,
што няма
лепшай.

Вы!
што закахаліся
у вёску

вы!
што прыклад—
як яе любіць

лепш
вучыцеся,
як лёпей!
сеяць „проса“

і як ворага
па мордзе
трэба біць.

Паміж слоў!
малінавых!
Вы!
ідзецё да мэты.

„Маё-ж“ слова
рэжа
вуха!?

Але ведайце
„я“ самы чулы
ад такіх, як вы!
поэтаў

і узьнёсься вышай
ад усіх вас
духам.

## Горацкі студыйны гурток Аршанскай філіі „Маладняка“.



Стаяць: (зьлева ўправа) Вечар, Мурашка, Чыжонак, Прыбыткоўскі, Калядка.
Сядзяць: Мятла, Сяргейчык, Ганчарык (кіраўнік філіі), Каваль, Гаўрук, Дзямідовіч.

## Пераклады Ю. Гаўрука з украінскай мовы.

Павло Тычына.

* * *

О, панна Інна, панна Інна!
Я—сам. Акно. Сьнягі...
Сястру я Вашу так любіў —
Праменіста, бязьвінна.
Любіў?—Даўно. Цьвілі лугі...
О, панна Інна, панна Інна,
Каханьня усьміх раз цьвіце—і гіне.
Сьнягі, сьнягі, сьнягі...

Я Вашы вочы уяўляю,
Як музыку, як сьпеў.
Мы разам. Ціш. Дзень вечарэў!
Я Вам чужы—я знаю.
Хтось кажа: родную сустрэў!
І раптам—неба... шэпты гаю...
Гляджуся ў вочы вашы і рыдаю.
Сястра ці Вы?—Гарэў.

Лэся Украінка.

* * *

Была ціхая ноч чараўніца,
Пакрывалам спакойным, шырокім
Яна слалася там за сялом;
Узьнімалася ў небе зарніца:
Бы над возерам сіне-глыбокім
Запляскаў лебедзь белым крылом.

І за кожным плясканьнем яскравым
Сэрца кідалася і трымцела,
Замірала ў цяжкой барацьбе.
Я стамілася боем крывавым
І цяпер засьпяваць бы хацела
Лебядзіную песьню сабе.

O. Олэсь.

Не бярэце з зялёнага лугу вярбы
Ні на жвір, ні на стромкія горы,
Бо, сасмагшы, завяне вярба ад журбы
Па тым лузе зялёным у горы.

Ня выносьце на поплаў зялёны сасны:
Засумуе ў нізе на даліне,
Ї засохне сасна ад сьцюдзёнай расы
Ї нуды па далёкай вяршыне.

* * *

Юрка Гаўрук.

# Жаўранак.

Разьлівалася поле перада мною, калі я йшоў, разьлівалася зялёнымі фарбамі маладога жыцьця, кроплямі першае радаснае веснавое расы. Ах, як жа хораша расло жыта!

Я адчуваў, як уздымаецца яго буйная сіла, як запаўняе ўсе шчыліны вольнага прастору, як прагавіта хапае яно багатыя дары сонца, жывіцца імі, як асушвае сваю веснавую расу дарамі сонца.

А па замежках яшчэ жаўцела прошлагодняя трава, даправаў стары ссушаны быльнік, так што ня можна было пазнаць дзе там старое, дзе новае. Вузкія замежкі апавілі поле, парэзалі яго на шматкі, доўгія і няроўныя, але не маглі сьціснуць сваёю вузасьцю яго шырыні. Разьлівавалася поле, вока сачыла толькі за яго магутнаю плыньню і не заўважвала прыкарэўшых да зямлі замежкаў.

Роўна і бязупынна дыхала зямля сваімі пульхнымі, успацеўшымі, раскінутымі грудзямі, сьмелая, няўважная, пакрытая лёгкім пухам маладое травы.

А ў нізе балота: толькі што спаў з яго ранішні туман і цяпер нясло адтуль густым і ліпкім пахам аеру, іржавай вільгацьцю, гаўяжым гноем, узбухлым і размытым усюды веснавою павадкаю; гнілі ракавіны, багавіньне, ласкуты паперы, анучы, выкінутыя на бераг рэчкаю, што агінала балота, бялелі там жа конскія чарапы і косткі: бязглузда ўстапыраныя, быццам спуджаныя, што іх зьнячэўку злавілі за няпрыгожаю справаю, гатовыя рушыцца і зараз жа, вось толькі адыйдзеш, перамяніць месца, каб легчы пластам і болей ужо ня ўздымацца ад сораму.

Колькі гэтых костак! Часам белыя, сьвежыя, а то шэрыя, выпетраўшыя, ці зрудзеўшыя і гразныя, яны ўслалі балота і былі добра відны сярод кароткіх парасткаў яшчэ не пасьпеўшага раскусьціцца аеру, і чэрві, і мухі, і сабакі даўно пакінулі іх, адабраўшы ўсё карыснае, што можна было адабраць.

Але сабака такі бег. Я йшоў па сьцежцы, пратоптанай між балотам і полем, сабака бег тудою-ж мне насустрач: рыжы, з узлахмычанымі шарсьцінамі, увесь у калючках, з падцятым хвастом, доўгім і тоўстым як недасмаленая галавешка; рэбры яго вылазілі са скуры, выцягнутая мыса хілілася да зямлі, прывабленая яе чарнаватаю тлустасьцю, відаць ён быў галодны і шукаў пажытку, бо час ад часу зварочваў у бок, каб пакарпацца ў багавіньні, альбо абнюхаць які-небудзь занадта вытырклы чэрап, разграбаў лапамі цьвілыя адкідкі, але мабыць заста-

ваўся незадаволеным, бо зараз жа зноў вяртаўся на сьцежку і ўтупіўшыся, дзіка ўскідваючы запалымі, гарачымі вачыма, бег далей.

Апроч гэтага сабакі нікога ня было відно, але скора і ён прапаў за ўзгоркам. Ні дрэўца, ні нават добрага хмызьняку, адно поле ды балота навакол, ды рэчка—гладкая, шырокая, яшчэ не абясьсіленая вадзянымі расьлінамі.

І тады зрабілася мне ціха, ногі перасталі слухацца мяне, супыніўся крок, я азірнуўся, каб пашукаць каго-небудзь, мне стала прыкра глядзець на белыя косткі ды багавіньне.

А ўгары разаслалася неба, сіняе, такое аднолькавае, такое прымытае, прыбранае, чыстае як у сьвята, хоць па закону ня было ніякага сьвята, а быў звычайны будзённы дзень, такі як і ўсе дні ў годзе.

Я ведаў добра, што кожны год сяляне сеюць увосень жыта, што кожны год яно вясною мусіць расьці, таму што сонца ўграе яго карэньні, зямля дае сокі, што жыта пасьпее, прынясе ўраджай, добры ці дрэнны, у залежнасьці ад пагоды, што летам яго сажнуць, але вось толькі чаму гэта так, а ня йначай, ня мог адказаць сабе, і яшчэ ня мог зразумець я чаму сёньняшняе неба было падобна да зялёнага жыта, такога кволага на пагляд і такога моцнага сапраўды, чыстага і прыбранага як у сьвята.

Ціха было. Я напружна ўслухоўваўся і пачуў як за мною лёгка шалпатала рэчка, асьцярожна плюхаючыся ў сваіх нізкіх берагох, нясучы спакваля разбухлую непразрыстую ваду; рэчка шумела так асьцярожна, быццам даражыла кожнаю кропляю сваёю і адчувала, што яшчэ чуцьчуць, яна ня вытрымае і разальлецца.

Здалёку віднелася вёска, ці то хутары, вуглавата і абыяк раскінутыя, ўсё адно як бы хто ўзяў іх зараз у жменю, падняў высака і са злосьцю шпурпнуў уніз на палеткі ды так і пакінуў. Шэрыя стрэхі гумен, з якіх яшчэ нядаўна толькі адтаяў і сьцёк сьнег, чырванелі і здаваліся цяпер куды навейшымі.

Над хутарамі стаяла сонца, такое цёплае ды ласкавае сёньня, і пагляд яго мякчыў усё навакол, бо павальней пачыналі дыхаць грудзі зямлі і чалавека, а сьвежая ральля прыціскалася да ног неадчэпна, бы хацела сказаць сваімі мокрымі вуснамі: не сьпяшайся, я хачу пабыць з табою, каб даведацца хто ты і да чаго здатны.

Здатная, прыгожая была зямля.

І вось, нечакана, так як усё, што ёсьць добрага на сьвеце, зусім нечакана і няпрыметна ўзьляцеў паблізу жаўранак і запеў.

Я не заўважыў калі ён узьляцеў, дзе ён хаваўся дасюль, але я знаў, што хаваюцца жаўранкі ў жыце, на ўлоньні, што колер іх чырванавата шэры, падобны да саламяных гуменных стрэх і да веснавое зямлі, што ўзьлятаюць яны хутка і проста ўверх і што ўмеюць доўга трымацца на небе, непарушна як і на зямлі, трымацца, так, як трымаецца на небе вунь за хутарамі сонца, бачыш яго, а чаму яно там, ня скажаш.

Жаўранак узьляцеў высока, расьцягнуў свае крыльцы, павіс у паветры і запеў. Голас яго быў часты, як расткі маладога жыта, быў чысьцейшы за сіняе неба і звонкі, звонкі.

Такая маленькая птушка і так голасна пяе, усьміхнулася ва мне нешта і быццам падскочыла ўсьлед за жаўранкам. Раней я адчуваў толькі сілу, цяпер я адчуў выяўленьне гэтае сілы і мне стала радасна.

Зьвінела песьня, калыхала багатае ўлоньне, дасягала глыбокага неба, вілася па-над рэчкай і каціліся на хутары, за хутары, усюды дзе яна магла і не магла быць чутна, таму што ў сэрцы маім зьвінела ра-

дасьць. Я забыў і галоднага сабаку і балотную твань і белыя конскія чарапы ды косткі, я цешыўся песьняю.

Жаўранак пеў доўга, прынамсі так я думаў, бо не адчуваў я цяпер, што такое доўга ці коратка. Цёмнаю кропкаю плаваў ён угары і гэта была адзіная жывая кропка на абшары палёў, калі ня лічыць жывое зямлі, жывога жыта, жывога неба і сонца, жывога сэрца чалавека. Але мабыць таму і здавалася ўсё жывым, што ўгары кружыўся гэты дробны жаўранак і разьліваў жывое імкненьне ў звонкай песьні.

Успомніў я, што гэта-ж пара цяпер пець жаўранкам усюды, што яны даўно ўжо вярнуліся з далёкага выраю, вясна пазвала іх да сябе на бацькаўшчыну, дык вось цяпер і зазываюць вясну.

Цюк, ці, ці, ці, ламала разьмяклае паветра песьня і бадзёрасьцю павеяў ветрык, пачуўшы яе прызыў. Ні жаху, ні застыласьці, ні зьнямогі, якая яснота і сьветласьць! І ня трэба будучыны, і нашто тая будучына, тое чым жыве і пакутуе чалавек, калі жаўранак шчасьлівы сваёю песьняю.

Няўтомна пеў жаўранак: цюк, ці, цюк, ці, ці, ці, проста так, бяз ніякай мэлёдыі, але ўсё-ж гэта была самая шчырая песьня, якую мне даводзілася чуць.

Жыта буяла, цягнулася, разьлівалася разам з зыкамі па полі, пружыніліся ногі мае, але, ня гледзячы на сваю моцнасьць, не маглі парушыцца. Усё слухала песьню, а да мяне далятала водгульле і ў тахт яму зьвінела сэрца.

Урэшце сьціхла песьня, павінна была сьціхнуць рана ці позна. Пакаціўся каменем з неба жаўранак на сваё роднае поле ў цёплую сырасьць, прапала цёмная кропка, толькі сіняе неба, падобнае да зялёнага жыта, шырылася пад маёю галавою, ды зьвінела водгульле ў маім сэрцы.

І тады я скрануўся і пашоў да людзей, каб падзяліцца з імі надзеямі. Можа і мне калі прыдзецца ўзьняць чые-небудзь думы, бо мяне самога ўзьняла песьня жаўранка.

А. Вечар.

# Хмары.

Нібы жыцьцё, сёньня неба нячыстае,
Хмары па твару яго ўсё ідуць.
Як вартаўнік, многа часу я выстаю,
Сьмела пад вецер сваё грудзі выстаўлю,
Яснага сонца прыжду.

Плакацца сорам, калі стаў мужчынаю
І загарэліся ў сэрцы агні.
Хоць няпрыемна, што быццам маршчынамі,
Ці па блакітнаму шоўку аўчынамі,
Хмары на неба ўзьляглі.

Неба таксама ня хоча быць ласкавым,
Бы адчуваючы крыўду зямлі.
Бачыло мабыць зубамі як ляскаюць
Людзі зьвяр'ё пад лісьліваю маскаю.
Хмурнае неба імгліць.

Неба, ня супся і годзе быць скнараю!
Неба, ты сьветлае сонца мне дай!
Поўны аб сонцы жаданьняў і марамі
Сёньня я, сёньня за чорнымі хмарамі
Зрокам імкнуся ў даль.

Хмары высокія, хмары вандроўныя,
Чорныя птушкі заходніх краёў!
Дзе пачалі вы плыць сьцежкаю роўнаю
Скуль падняліся дый сілай чароўнаю
Сонца жывога ў гару?

Можа быць сьлёзы работніцы-мацеры,
Плача якая над лёсам дзяцей,
Як, абарваўшыся з нітачкі, пацеркі,
Падалі долу, а вецер на шпацары
З імі ў даль паляцеў?

Мо' над палямі змурочнае Англіі
Бачылі промні вы новай зары
У гарадох абматаных туманамі?
Мабыць! Бо край ваш, як золатам тканая
Сьветлая радасьць, гарыць.

Хмары ня кажуць, навісьлі над Захадам,
Захад, маё прывітаньне прымі!
Будзе пара, ты пабачыш, заахаюць
Людзі з прадажнай душой і адвагаю —
Моцна пярун загрыміць.

Хмары бягуць і мітусяцца кучаю.
Хто адгадае, які будзе лёс?
Хай сабе вораг з кулаччамі сучыцца.
Кажуць мне хмары маланкай бліскучаю:
„Сонца на сьвеце шчэ ёсьць!"...

А. Вечар.

# Перамога.

## (Быль).

### I.

Глянула аднавокае сонца яшчэ раз на спустошаную восеньню і людзьмі зямлю, зачапілася сваімі доўгімі расьніцамі-промнямі ў абголеным лістападным ветрам гальлі, яшчэ раз надало нязвычайную прыгожасьць жоўценькім паперачкам-лістом і... зьнікла. Пачынала цямнець. Шэры, а потым і зусім чорны, туляга-змрок працягваў свае нячутныя пасмы-рукі і агортваў сваёю цёмнаю сьвіткаю ўсю істоту і ўсё тое, што рабілася на зямлі.

Прыходзіла яго моц, яго ўлада! Сонца яшчэ раз пазалаціла краі хмар, што стаялі над лесам, як бы зацікаўленыя тымі асаблівымі адценьнямі, якія ён пачаў прымаць з захадам дню, і аставіла па сабе толькі сьлед—вячэрнюю зару. Але й яна была ня доўга! Асеньні вечар кароткі, яго зьменьвае скора цёмная ноч—цёмная, доўгая—сама красьці!

Толькі лес прымаў у вечары асаблівую выразнасьць, здаваўся вышшым, цямнейшым, падступаў бліжэй да вёскі Церабехі, якая на выцерабе сярод лесу (адсюль яна й атрымала сваю назову) мела выгляд пасаджанае на шэрым фоне палянцы чорнае плямы.

Па дарозе ў гэтую вёску, абкружаную з усіх бакоў лесам і закінутую лёсам у адзін з глухіх куткоў Палесься, йшоў чалавек. Па яго скорых кроках, па тым, што ён нават не зьвяртаў увагі на тое, што рабілася вакол яго, можна было адразу сказаць, што ён сьпяшаўся. Дый было чаго сьпяшацца! Сонца зайшло, цёмначы ісьці ня вельмі прыемна, а к таму-ж ахвота была пасьпець дамоў так, каб можна было сёньня паслухаць газэту, якую ён нёс з сабою з раёну. Вёска далёкая і газэты былі ў рэдкасьць. Паслухаць—бо чытаць то іх і ня ўмеў. Паслухаць, як іх чытае Антось Язьвінскі, прычым ён яшчэ так добра растлумачвае,— адразу ўсё робіцца зразумела. Вось гэта хлапец — а як раду якую-небудзь дасьць—ніколі не ашукаешся, калі зробіш, як ён казаў. Каб не застрахаваў каня—то і ня йшоў бы цяпер вясёлы дадому, атрымаўшы страхоўку, калі ён здох, бульбы аб'еўшыся. А ўсё Антось—ня было-б то чырвонаармеец! Так думае Саўка Гладыш, а сам пільна глядзіць сабе пад ногі, ці-ж доўга ў цемнаце дарогаю ў лесе за корч ці за карэньне якое зачапіцца,—і раптам... нешта цёмнае, цямней чым самая ноч, ускінулася на галаву. Інстынктыўна хацеў вызваліцца ад гэтага як мага скарэй, адчуў што гэта нейкая сьвітка, але ўжо нехта моцна трымаў за рукі, паддаў ззаду нагою і адразу-ж паваліў на зямлю. Нешта страшнае падпаўзло к сэрцу, з нечалавечаю сілаю рвануўся Саўка, каб устаць, хацеў крыкнуць, але тры пары рук (ён адчуў, што іх было трое) трымалі моцна, усьпелі запхнуць анучаю рот, зьвязаць ззаду рукі. Словы для ўсяго жывога страшэнныя!

„Прыкончыць ці што?“ адзін голас.

„Не, ня варта, за ноч яго і так ваўкі зьядуць, а не... яго шчасьце“,— другі.

„Ну дык вядзем у лес“—трэці.

Адвялі, можна сказаць, адцягнулі сілаю ад дарогі ў гушчар, прывязалі к дзераву. Пакінулі, а ў Саўкі рот завязаны, крыкнуць нельга, шавяльнуцца таксама не магчыма, а над усім гэтым жах ад непаразу-

меньня таго, што творыцца наўкол, і б'ючая ў мазгі думка: што хаця будзе?

II.

А ў вёсцы гульні, жарты і сьмех. Вясковая моладзь стараецца скарыстаць апошнія прыгожыя вечары восені для песень, для любошчаў, для пацалункаў. Прыдзе зіма і хіба можна будзе ў хаце перад усімі пацалаваць каханую дзяўчыну, сказаць такое ласкавае слова, якога ня кажуць перад людзі, якое хіба толькі падслухае вецер і памчыцца вясёлы з думкаю, што ня ўсё дрэнна на сьвеце, гойсаць па заплоцьцю і заглядаць у вочы-вакенцы хат. Каханьне, як вядома, чужых вачэй ня любіць...

Антось Язьвінскі, хоць і даў сабе зарок тры дні таму назад не хадзіць больш гуляць, бо ўсе роўна нічога мабыць ня выйдзе з таго, аб чым ён марыў у апошні час, ня мог сёньня быць дома. Думкі назалючыя, як той авадзень, не адступалі ад яго, жалілі сэрца, не давалі супакою. Гэта былі думкі аб Наташы. Яе вобраз з усьмешкаю, такою маленькаю ўсьмешкаю, ад якое чуць-чуць варушыцца твар і якая гаварыла аб дабраце чалавека, які меў гэткую ўсьмешку, сёньня асабліва стаяў перад ім.

„Не, трэба схадзіць, убачыць, пагаварыць. А што калі яна зусім не захоча потым гаварыць са мною, калі я буду доўга ня бачыць яе“. Ад гэтай думкі яму стала нядобра — ён апрануў сваю толькі па сьвятах надзяваную шынель, у якой дэмабілізаваўся, папрасіў маці: „Замкнеце сенцы, бо я мабыць позна прыду, а затым можа буду спаць у гумне“ і вышаў. Пачуўшы галасы, накіраваўся туды і скора напаткаў капэлю моладзі, якая сьмяялася, жартавала, штурхалася. Павіскваньне дзяўчат і рогат хлапцоў чамусьці ў яго сэрцы адбіліся, як нешта дрэннае.

„Жывуць, а думаюць мала, як жыць“—падумаў. Угледзіўшы Антося дзяўчата адразу-ж прысталі к яму; „Вазьмі ў Зьмітра гармонік, пайграй“! „Чаму свайго ня купіш, вось і прасіць ня трэба было-б“. Адказваў жартуючы: „Вашых ног шкадую! Бацька з сабою на той сьвет усе грошы забраў“ (яго бацька памёр безьзямельным), а сам шукаў вачыма Наташу. Яе ня было.

Хлопцы спаткалі яго розна: адны добра і весела, другія — (у іх былі лепшыя боты) — моўчкі. Адзін запытаўся: „Ты ня бачыў часам, Саўка ня прышоў? (Саўкава хата была побач з Антосевай). Мо' газэты прынёс?“ Ласкава глянуў на яго Антось, адказаў: „здаецца, не“... а самому прыкра стала — з-за думак аб Наташы нават забыўся папытаць зайсьці, хоць сьвятло ў хаце й было.

У гэты момант—трах! а потым—дзьвінь! раздаўся стук і звон пабітага шкла ў суседняй хаце. Перад вокнамі на вуліцы стаяў з вялізарным калом мужчына і выбіваў вокна.

„Кум, аддай кварту“! і акно разам з рамаю ляцела ў хату.

„Ку-ум, ад-дай кварту, кажу табе“, лаячыся на чом сьвет стаіць, хістаючыся ад выпітай гарэлкі, казаў п'яны і мерыўся дастаць па другім.

Нейкая кабета прасіла: „Кандрат, ну пакінь, хадзем дамоў“—цягнула за рукаў.

„Ідзі к чортавай мацеры“ і удар кулаком у твар адкінуў яе ў бок.

Да ўсяго гэтага шуму на вуліцы прылучыўся за душу хапаючы плач пакрыўджанае жанчыны. Усе кінуліся туды. Антось таксама хацеў

бегчы з імі. „Чаго там“, затрымаў яго адзін з хлапцоў (той самы, што пра газэты пытаўся), з п‘яніцамі няма чаго ваяваць. Яшчэ чаго добрага... А „яна“ сёньня ў Ганны, дадаў ён цішэй, у тае бацькі ў госьці паехалі, дык хаты з малымі няма на каго пакінуць. Хадзем, калі хочаш“.

Трохі было неяк сорамна перад таварышам за сваю як бы слабасьць, але ня мог не паддацца на яго словы. Пашлі, пакідаючы другіх разьбірацца ў гэтым гармідары.

Ганна з Наташаю ўжо стаялі на вуліцы і чакалі толькі, каб у каго небудзь запытацца, што там. Падыйшлі, павіталіся.

„Што гэта там за кірмаш?“ Гэта Ганна, бойкая дзяўчына (у яе так прыгожа, калі яна ўсьміхаецца, робяцца дзьве ямачкі на шчоках, ня там дзе у многіх, а вышэй, пад вочы) пытае.

„Ды Кандрат Дрыгва з вечара піў разам з кумам, а пасьля нечага непаладзілі, дык вокна павыбіваў, а потым жонку пабіў“, адказаў Юзік, што прышоў з Антосем. Ганна спахмурнела, потым зноў усьміхнулася. „Ты таксама некалі будзеш жонку біць“ пажартавала яна. Гэта на Юзіка. „Ну, напэўна“—адказаў той. „Ну, а ты памятаеш, як нам калісьці ў кніжцы чытаў, што цяпер раўнапраўе! Даў дый насі здарова“, гэта на Антося.

„Можна ў суд падаць“, неахвотна сказаў Антось.

„У суд, у суд, перадражніла Ганна, „а як жа тады жыць будзеш, ён жа ў труну загоніць са злосьці“.

„Але-ж чаго тут стаяць“,—разам зьмяніла яна тон, „хадзем у хату“. Яна выбегла ня апрануўшыся і ёй было халодна.

„Люблю я з табою, Антось паспрачацца“ дадала яна жартаўліва, „хоць пагаворыш у смак, а то вось Юзік—што не скажу, згодзен. Дык хадзем!“ зьвярнулася яна да Наташы.

„Не, я пайду ўжо дамоў“, сказала Наташа, якая стаяла прытуліўшыся к слупку каля варот і ўважліва сачыла за гаворкаю, кожным поглядам, кожным рухам Антося, а сама паказвала выгляд, што слухае далёкі гоман, сярод якога часам прарывалася нотаю вышэй лаянка Кандрата Дрыгвы.

Ганна яе разумела. „Ну дык бывай здарова, а ты-ж куды?“ Запыталася яна ў Юзіка, які ўжо адышоў крокаў пяць.

„А ў хату. Ты-ж казала: хадзем“...

„Ха-ха-ха! Ну ці не мая праўда, што ён занадта паслухмяны. То чаго-ж першы папёрся? Пачакай!

Разышліся. Антось ішоў моўчкі з Наташаю і не знаходзіў слоў. Думалася, што так многа ёй трэба сказаць і не хацелася гаварыць, так бы і йшоў бясконца ўвесь свой век з ёю, адчуваючы радасьць ад яе блізкасьці. Узяў яе за руку, яму здалося, што пальцы ціха-ціха ўздрыгваюць.

„А тата казаў, што на цябе вельмі злуюць тыя, у каго правялі абрэзку зямлі“, ціха сказала Наташа, каб распачаць якую-небудзь гутарку.

„Ведаю“, адказаў Антось, „яны ўжо цэлы год злуюць, але што з таго“...

„Казаў таксама, што ты яму не падабаешся. Вельмі ўжо з галечаю дружыш“...

„І гэта ведаю“, сказаў Антось. А сам глядзеў на яе твар, на яе, чамусьці чуць-чуць насупленыя бровы, з-пад каторых глядзелі цёмнашэрыя вочы—многа такіх вачэй на сьвеце — але толькі ў яе былі такія, што пад іх паглядам ён забываў пра ўсё, і радаваўся. Чаго ён рады?

Сам ня ведаў. Толькі ад гэтай апанаваўшай яго радасьці ён абняў стан Наташы, прытуліў да сябе. Яна трохі адхілялася, а знаёмая ўсьмешка, ад якой нават бровы разгладзіліся, бегала, варушыла твар. Уняпрыкметкі падыйшлі да хаты, ў якой жыла Наташа. Малады шчанюк падкаціўся к варотам, дзяўкнуў разоў два, але пазнаўшы Наташу, сьціх. Антось схамянуўся. Яму-ж яшчэ трэба сур'ёзна пагаварыць з ёю.

„Наташа!“ просячым тонам вырвалася ў яго.

— ? . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Любая, кінь ты бацькоў слухаць. Што бацькі... Потым і яны згодзяцца... хіба ня любіш зусім, не кахаеш, а толькі пазьдзекавацца хочаш?“

„Ці люблю?“ А ўсьмешка загінула. Палажыла рукі яму на плечы. „Ведаеш сам... Не стаяла-б тут... Да толькі бяз згоды бацькоў і без вянца... а так у нашай вёсцы ніколі ня было... я не магу...

„Калі-б любіў ты“ раптам с дакорам сказала яна—„то сам бы згадзіўся ў царкву даведацца, цябе-б ад гэтага ня ўбыло“.

„Няпраўда, з жарам сказаў Антось, гэта быў бы ўжо нават ня я, а нехта другі. Супроць свайго сэрца і сваёй волі я не пайду. Гэта для мяне ахвяра, якой я не магу зрабіць, бо гэта значыць з-за каханьня я павінен ня быць самім сабою“...

„Калі так“... — ён ўзяў яе абедзьве рукі, то паміж намі ўсё скончана. Дарагая мая, падумай, што ты робіш... а цяпер... у апошні раз...

Ён ня мог адвясьці ад яе сваіх вачэй, вось яе вочы, такія добрыя і грэючыя, бліжэй яшчэ... і вусны спаткаліся з вуснамі. Антось перамог сябе, завярнуў і пашоў.

„Любы, ня йдзі... я-ж... нічога. . Дай падумаць, а то ты неяк раптам“.

Затрымала, прытулілася. „Мой прыгожы!“ сказала ласкава. „Аб усім, усім я скажу табе пасьлязаўтра. А цяпер ня муч мяне, пакіньма аб гэтым“.

Селі ў гародчыку...

Калі Антось ішоў дадому, то ўсюды было ўжо ціха—нават сабакі не брахалі.

Толькі на дварэ у Саўкі, калі ён праходзіў праз яго, яму паказаўся нейкі шорах.

„Ат, можа сьвіньня якая цягаецца“ — падумаў Антось і завярнуў у свой двор.

## III.

Сьвітаньне, а потым раніца. Цішыня ночы адчувалася яшчэ і цяпер, хіба толькі рыпнуць дзьверы ў хаце, калі руплівая гаспадыня выбяжыць за вадой к студні. Антось толькі што выйшаў з гумна, як да яго даляцела высокае жаночае: „А-ёй-лечкі, што-ж цяпер будзем рабіць“, і гэты выкрык ускалыхнуў усю яго душу. Ён пазнаў, што гэта быў голас Саўкавай жонкі Агапы. Скора, адчуваючы што зрабілася нешта дрэннае, ён пашоў, чуць не пабег, на крык. На Саўкавым двару ўжо зьбеглася шмат народу. Першае, што ён заўважыў, гэта тое, што Агапа паказвала людзям вырваныя прабоі і замок і галосна плакала. Дый было чаго плакаць!

Амаль усё дабро, якое было ў сьвірну, за ноч было некуды вывезена, нават збожжа, мука і розныя гаспадарчыя прылады. Антось успомніў пра ўчорашні шорах на дварэ і нейкая злосьць апанавала яго на сябе самога. Што-б яму значыла зайсьці ў двор! Тут жа яму сказалі, што Саўка яшчэ не вярнуўся. Людзі, як заўжды бывае ў такіх выпадках, стараліся кожны па свойму даць якую-небудзь раду.

Стары Ладыра, якога нават і ўночы часта можна было ўбачыць на дварэ, казаў: „Ня трэба вельмі многа спаць, не... не... дый выйдзі на

двор, паглядзі што робіцца. А то кінуць, рынуць, а ноч доўгая — мала што можна зрабіць"...

— Замкі трэба добрыя мець, вось што — казаў бацька Наташы, Сымон Палявы, — хіба-ж гэта замок ці прабоі, паказваў ён на гэтыя рэчы, — крануў ломам дай гатова. Вось няхай у мяне папробуюць, улезуць—самаздаволена даказаў ён.

Угледзеўшы Антося, сьціх. Ня любіў ён, што гэты за яго дачкою „страляе“, як ён сам гаварыў. Аб гэтым уся вёска ведала, а як жа яму ня ведаць! А у Антося скора, скора бягуць думкі. Што дарма языком малоць! Памагчы трэба, а што паможаш! вочы ад думак пад векі схаваліся, а што прыдумаеш! І аднейкуль стала выпаўзаць, зарадзіўшыся, гойстрая думка.

— А лепей за ўсё, сабак добрых трымаць. Сабакі брэх ўздымуць, пабудзяць, вось яно як — казаў Янка Леўчык, першы сабакар у вёсцы. Сваіх пару маў і чужых любіў цьвеліць.

— Не, людзі,—як бы зьнячэўку сказаў Антось,--тут як каму пашанцуе, я вось нават і адмычку ад сьверна кладу ў тую дзірку, што каты лазяць і нічога... Як чые шчасьце!

Ніхто не зьвярнуў асаблівай увагі на яго словы, толькі Кандрат Дрыгва, які ўжо усьпеў працьверазіцца, неяк усьміхнуўся пры гэтых словах сам пра сябе, а пасьля зрабіўся сур'ёзным, як бы нешта вельмі важнае думаў.

Яшчэ крыху пагаманілі і разышліся.

Пад вечар у гумно к Антосю прыйшоў Саўка, замардаваны, прыгнечаны горам. Расказаў, што яго ў лесе найшоў лясьнік, які рабіў абход і напаткаўшы адвязаў ад дзерава.

— Ня зьелі ваўкі двуногія, дык ад запраўдных ваўкоў цэлым застаўся!

— Хто грабежнікі ня ведаў.

— Братка, што тут рабіць — пытаўся Саўка, сеў на заперу і заплакаў.

— Яны, мабыць... у каго абрэзку правялі... ніхто іншы... Раней працаю на іх душу з цела выганялі, а цяпер простым зладзействам у старцы пусьцілі...

Антось сеў каля яго, стараўся супакоіць.

— Па міліцыю трэба паслаць,—сказаў, а у самога і надзеі ў голасе ня чуваць. Усяроўна ня знойдуць!

Пагаварылі яшчэ крыху і лягчэй стала, бо адзін на другога надзею мелі, адзін другому памагаць дакляравалі.

## IV.

А ў вечары Антось хадзіў па дварэ даўжэй чым заўжды—усё уходжваўся. У павеці аглядаў моцную жалезную пастку на ваўкоў і радасная усьмешка бегала па твары. Павазіўся з паўгадзіны каля сьверна, пайшоў у хату.

У гэты вечар Антось нікуды не хадзіў. Наташа адклала ўсё на пасьлязаўтра, дык чаго-ж яму сёньня ісьці, заўтра пойдзе. Дастаў сваю скрыначку, з якою праслужыў увесь час у арміі і дамоў прыйшоў, пачаў пераглядаць, што там было. Пералістаў нейкаторыя кніжкі, што там былі, уздыхнуў, нібы з таго, што іх было мала і што ўсе ўжо прачытаў, падумаў: „трэба хіба Юзіка з хлапцамі падгаварыць, каб сабралі грошай на кніжкі“ і радасны ад гэтай думкі, дастаў з самага дна новенькі,

бліскучы рэвольвар. Паглядзеў на яго і усьміхнуўся. Успомніў, як перад водпускам, разьвітваючыся з сваім камандзірам, ён папрасіў, каб яму дазволілі мець пры сябе яго.

— Ну, што-ж, можа прыгодзіцца, сказалі яму.

— Мабыць прыгодзіцца, падумаў ён і ізноў усьміхнуўся.

Пад дзень яго будзіла маці, уся стрывожаная і разам з тым баючыся, каб не зжахнуць і яго. „Антось, Антось! На двары страляюць“. Адразу-ж прахапіўся.

— Ціха, мама, ведаю. А сам кажух на плечы, рэвольвар з пад падушкі ў руку, на двор.

У шэрым тумане васеньняе раніцы ён угледзіў каля свайго сьверна чалавека, які сядзеў перад дзьвярмі, засадзіўшы ніжэй іх у дзірку правую руку, і страляў левую з рэвольвару ў дзьверы, думаючы, што за імі хто небудзь яго дзяржыць.

Радасьць падхваціла і панесла ўсе думкі Антося.

— Ага! папаўся! ня вытрымаў, каб, як ахотнік пасьля добрага паляваньня, не сказаць Антось. Чалавек (у ім Антось пазнаў Трахіма Дзяругу з Дзямідаўкі) пачуў, са злосьцю ўськінуў наган у той бок, дзе стаяў Антось і выстраліў. Леваю рукою, а затым не папаў. Адкінуў наган у бок.

— Ну, ты палягчэй, а то гэтак і забіць нядоўга — жартліва сказаў Антось.

Воўчая пастка трымала моцна і ён быў заверань, што злодзей не ўцячэ.

А гэты прасіўся:

— Братка, пусьці! Я толькі паглядзець, ці ты казаў праўду.

— А гэта рэч навошта? Паказаў на валяючыся наган.

— Кажы, хто навеў, што ў мяне лёгка ў сьверан улезьці.—

— Братка, гэта Дрыгва падвёў. Пусьці.—

Пачулі і суседзі стрэл, зьбегліся. Хацелі самасуд зрабіць, да Антось ня даў. Тут-жа Трахім сазнаўся, што ён быў разам на драпежніцтве у Саўкі з Дзянісам Шугаём і Язэпам Вазюром. Першы быў таксама з Дзянісаўкі, а другі жыў на хутары ў лесе. Усе рэчы Саўкі былі вывезены да часу ў лясную гушчыню, а грошы за страхоўку былі тут жа пры Трахіме. Ён расказваў усё з адчаю і са злосьцю на сваіх таварышаў, што кінулі ў такую хвіліну. А Саўка радасны запрагаў Антосявага каня, каб ехаць забіраць свае дабро ў паказаным Дзяругаю мейсцы.

Пад паўдня прыехала міліцыя, за якою паслалі яшчэ ўчора і якой прышлося толькі арыштовываць выказаных. Як пераказвалі ў Церабесе ў той жа дзень, Дзяніса Шугая не знайшлі. Уцёк у лес. Гэта было няпрыемна, бо яго ведалі як чалавека адчаянага, ды к таму-ж польская мяжа так недалёка...

Гаворкі ў вёсцы аб здарэньні з пасткаю было на цэлы дзень, а калі Антось па якой небудзь прычыне праходзіў па вуліцы, то не адна дзяўчына выглядвала ў вакно і праваджала яго поглядам. І так ён—хлапец хоць куды, а тут яшчэ такі хітры, што на дзіва—думала і ўздыхала, ўспамінаючы пра Наташу.

— Дурніца Натальля,—яшчэ ўпіраецца—думалі практычныя кабеты-мацяркі, каб на мяне, дык я сваю сілаю выперла-б.

— Вельмі ганаровы і Сымон—маўчаў бы ўжо, калі што—і ў задуменьні думалі аб долі сваіх дачок.

А Антосю, спаткаўшыся на вуліцы, Юзік сказаў, што ён разам з Міхасём і Рыгорам думаюць адчыніць у Церабесе хату-чытальню ў папоў-

скім доме. Толькі трэба с. савет націсНуць, каб ён пасьмялей быў. Яго Антося, будуць прасіць за загадчыка. Сказаў таксама, што Ганна згадзілася за яго, Юзіка замуж і нават без вянца. Гаварыў скора і так радасна.

Потым пра Наташу.

— Казала, каб ты прыйшоў, як зойдзе сонца, ў сад і чакаў яе там для сажалкі.

А ў вечары верба над сажалкай слухала і калыхала бязлістым гальлём у адзнаку падцьвярджэньня таго, што чула.

А Наташа гаварыла:

— Ўсё тое, тое што ты гаворыш, праўда... Я не магу ня верыць, затым можа, што люблю...

І абое сьмеяліся і радаваліся.

І далей: „ты мае ўсё: і бацька, і таварыш і нават жыцьцё"...

І губы шукалі губ...

V.

А потым было так. Правёўшы Наташу да дому, Антось, поўны розных думак аб перажытым за дзень, не пайшоў адразу-ж спаць, а пашоў проста ў канец сяла, вышаў у поле. Усюды стаяла сьцяною цьма, а яскравыя вобразы так і хадзілі вакол, так і мітусіліся, як жывыя. Спыніўся, мацнуў у кішэні. Холад сталі прыемна лізнуў яго руку. Пашоў далей разважаючы аб тым і сім, памалу падышоў да рэчкі, маленькае, пявучае, што адзяляла лес ад поля. Усюды было так ціха, ніхто не бачыў яго і ён таксама нікога, Толькі ноч была з ім і халодны вецер з поля падбегаў і так сама спыняўся ля лесу. Антось сеў на беразе рэчкі. Успомніў пра Юзіка, хату-чытальню. Але-ж, так! Выкураць па малу і папа з вёскі. Хацелася змагацца і далей, як да гэтае пары з гэтымі тоўстымі людзьмі, што жыруюць і сычаюць на горы другіх. А думкі ўсё бягуць і бягуць! А здорава гамтанулі і ў школах ґэтую злыбеду. Вось было цікава глядзець, як поп хацеў прыціснуць да сваіх грудзей нядаўна вычышчаную з вышэйшаае школы дачку і, замест гэтага, мог толькі прыгарнуць, да свайго вялікага, як крыж добрага завадзкога жэрабца, жывату. Так. Але што-ж гэта? Па вадзе нешта бліснула аганьком, потым, другім, трэцім. Адкуль гэта? А на вадзе аганькоў ужо многа, бегаюць, гінуць, ізноў зьяўляюцца. Аглянуўся і... зразумеў усё.

Яго гумно, новае, нядаўна пабудованае, крыху воддаль ад вёскі — гарэла. Слуп агню пачаў прарэзвацца цераз дым і асьвятляць поле. Кінуўся бегчы туды як мага скарэй і тут-жа загледзеў чалавека, які скора, скора бег у той бок, у якім знаходзіўся Антось. Раптам загледзеў Антося і павярнуў проста цераз поле ў другі бок к лесу. „Дзяніс Шугай"—прабегла ў Антося думка. Кінуўся даганяць, а той усё бліжэй к лесу падбіраецца.

„Уцячэ мабыць" — у мазгох прабегла і тут-жа ўспомніў пра рэвальвар. Выхваціў з кішэні, ускінуў руку.

Дзух! Дзух! Дзух! тры разы урачыста прагучала ў паветры і нясьметным лікам раз было паўторана ў лесе.

Чалавек, які уцякаў, спыніўся на хвілінку, потым яшчэ прабег шагом дзесяць, потым пайшоў памалу, ухваціўся абедзьвюма рукамі за бок і апусьціўся, як бы ня хочачы, на зямлю...

А. Вечар.

* * *

У мяне пад вакном красавалася стромкая хвойка.
Каля хвойкі ў гародчыку пышныя кветкі цьвілі.
Іх дзяўчыны рука насадзіла ў радкі, нібы войска —
І чырвоных, і жоўтых, і сініх, і дзікіх, і свойскіх.
Ах, якія прыгожыя кветкі былі!

У сябе пад вакном
Любіў часта хадзіць я між кветак
І любіў любавацца
Лілейных пялёсткаў красой.
Першы раз у жыцьці
Я разыгрываў ролю валета
І здавалася мне,
Што ніколі ня скончыцца лета,
А цяпер мне здаецца, што гэта быў сон.

Цёмнай ноччу
Ступілі на кветкі халодныя лапы
І загінулі ў кветках
Уся прыгажосьць і агні;
Іх галовы упалі
На брудныя мёрзлыя храпы,
А мароз укалоць
Аж у самае сэрца патрапіў,
І чароўныя кветкі згнілі.

А на хвойцы павіс, жывым срэбрам бліскаючы, іней
І паўстала яна у нязнанай дагэтуль красе.
А я рад, што мацнейшае доўга жыве і ня гіне
І люблю, калі хвойка ў завею сваёю галінай
У адзнаку бадзёрасьці ціха трасе.

Прыбыткоўскі.

Ціха сыплецца сьнег,
ой... як ціха сыплецца сьнег.

А рукі
рвуцца
у буру-завею,
рукі
рвуцца
заслону
разьвеяць.

Разьвеяць,
ударыць,
нагамі у хмары,
хай зваліцца
сьнег
на галовы,
мы стопчам
і сьнег,
і драпежныя мары,
і ўзьняўшыся
глянем на неба
сурова.

Яснае неба
ніхто
не заслоніць,
ніхто не схавае
зоры
вясёлку.

Бліскучае заўтра
іскрысьцей
ад сонца:
ты, сьнег,
не загасіш
пажар
на пасёлках.

## Прыбыткоўскі.

* * *

Дзядунечка любы,
дзядунечка родны,
чаму ў цябе бела-
белая бародка?

Унучак мой родны,
унучак мой любы,
пажыві ты столькі,
паеш столькі бульбы,
і ў цябе бародка,
як сьнег пабялее
і ў цябе галоўка,
як месяц злысее.

Дзядунечка любы,
Дзядуня старэнькі,
чаму, ты дзядуня,
нядужы, худзенькі?

Унучак мой сьмешны,
унучак маленькі,
хоць і я ня сыты,
дык і ты-ж худзенькі.

А ў твае гадочкі
я шмат быў ладнейшы
і за цябе ўнучак
у двая дужэйшы.

Толькі з маёй сілы
ня было карысьці,
бо трэ' было пану
век канюшні чысьціць.

Ну... а цяпер людзі
дармо, што здрабнелі

маюць свае хаткі
і свой хлябок мелюць.

От і мой сыночак,
а, значыць, твой татка
навазіў бярвеньняў,
ды паставіў хатку.

А я ў вашай хатцы,
ды на новай печы
сьмела хоць пад старасьць
грэю свае плечы.

---

Скажы, дзед, мне казку
пра сваю вясну!
. . . . . . . . . . . . . . . . .
ці, ты, сьпіш... дзядуня!?
Але... Дзед заснуў.

## Аршанскі студыйны гурток Аршанскай філіі „Маладняка“.



Сядзяць. В. Сталевускі, Юнык, Прыбытковскі, Кляштарны

Дубовік.

* * *

Праходзяць вобразы перад вачыма
таго, што ўжо ня вернецца назад.
Яны прыносяць сэрцу адпачынак,
дапамагаюць вобразы ў вянок нізаць.

О, першая пралеска лятуценень,
о, сакавік,—атрута, хмель і радасьць!
ты на душу маю ня кінеш цень
і не схаваешся за сінімі гарамі.

Ты пройдзеш прад туманнымі вачыма
і радасць ціхая, бы вечар празьвініць,
у сэрцы мільгануць агні —
ты пройдзеш фантастычнаю дзяўчынай.

Сьнежань 1925 г.

Яз. Вір.

Чорнаю коўдраю ночы
Туліцца цёмная восень.
Вецер лістамі лапоча,
Лес апусьцелы галосіць.

Жудасна-грозны,
Дзікі, упарты,
І рана і позна
Шалёныя жарты
Творыць віхор.
Злосна ён вые,
Холадам крые
Поле шырокае,
Неба глыбокае,
Водблескі зор.

Плакала хмурая восень,
Звала да сну мяне.
Выла на голай палосе,
Рвала на стрэхах калосьсе,
Біла дажджом па вакне.

А думка жывучая,
Думка кіпучая,
Мкнецца да волі...
Сьлез не хачу я!
Хай вецер пачуе,
Што я ў комсамоле
Думкай жыву.
Па хвалях бязьмежных,
Бурных, мяцежных,
Сьмела і горда плыву.
Зычнымі звонамі,
Па-над загонамі
Песьню хачу разьліваць,
Песьню здаровую,
Сьвежую, новую,
Голасам шчасьця сьпяваць.

Яз. Вір.

* * *

Кветкамі ціха шумела вясна,
Булькалі жвава крыніцы,
Рвала прырода таёмніцы сна
Дыхам вясны чараўніцы.
Шоўкам пахучай зялёнай травы
Крыліся межы зямліцы,
Лес прывітаў валасьсём галавы
Першы раскат навальніцы.
Рушацца думкі ў бязьмежную шыр,
Сьцелюцца срэбрам пачуцьці.
Кволыя струны вясновай душы
Сэрцам хацеў бы пачуць я.



С. Калядка.

* * *

Не паверу я, не паверу,
што сунімуцца рэкі цячы,
Не паверу, што яркае сонца
згасьне ў момант—ня будзе сьвяціць.
Не паверу, што знойдзецца сіла,
каб суняць плыні быстрай ракі,
Не паверу каб сэрца жывое
перастала біць — такацець.

Не забуду я, не забуду
тых часоў і дзянькоў і гадзін,
Не забуду крыві, сьлёз і поту,
што пралілі у годы вайны;
Не забуду, як кроўю ашпараны,
сьвет узьняўся і дзіка стагнаў.
Не забуду сталёвыя сьцены
і таго хто у кузьні каваў.

Не пакіну я, не пакіну
тых з кім жыў і жыцьцё будаваў,
Не пакіну я думкі, што прыдзе
час апошні змаганьня за сьвет,
Не пакіну тады, не пакіну
брата працы і пойдзем у бой,
Не пакіну я шэрагаў вечных,
калектыўнай жыву барацьбой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не паверу, што знойдзецца сіла,
каб суняць плыні быстрай ракі,
Не паверу каб сэрца жывое
перастала біць-такацець.

С. Калядка.

# У полі.

Стаў падаць змрок:
руҗовыя прамені сонца
ўжо стухлі,
і месяц спраўны вартаўнік
нясьмела ўсходзіў
з-пад узгорка.

Мігалі аганькі
з вакон сялянскіх хат,
нібы хвасты ад іх
ляжалі цені,
трашчэў мароз,
дарога як крышталь
блішчэла..,
па ёй вазы
паўзьлі
раскідана
па полі.

І ціха навакол,
мярцьвелым выглядаў абшар.
— Ну што, запалім?!
з спагадай нейкаю сказаў,
мне падарожнік —
вёскі гаспадар.

— А што-ж, давайце!
і два агні зазьзялі,
як іскры зорак
з вокан і нябёс;
і слаўся шэры змрок,
наўкола цішыня
скрыпелі сані,
фыркаў конь
пад топат
часты
капытоў.

Ускалыхнуліся думкі: вечныя, шырокія,
Дзе-б ня быў я з імі, з імі заўсягды,
Спрэчкі кожнадзённыя, долі сьцяг высокі
Жыцьцё справаджаюць усе мае гады.

А сярод мярцьвелых ў змроку хат, і дрэў
І палёў мне родных, сэрцам адчуваў,
Адчуваў, што вокны,—дзе агонь гарэў,
Засьпяваюць песьню каб увесь сьвет знаў.

Каб знаў што пакінула гаравацъ краіна,
Што ня топча красак ні пан, ні лайдак
З сваіх васілёчкаў нашая Марына
Напляце вяночкаў сэрцу ўцеху дасьць.

---

Спахмурнела неба
месяц захаваўся,
завіхура ветрык
запяяў што-сь гучна
і абшар цямнеўся
сталі процьмай далі
толькі з хат сялянскіх
аганькі зіялі.

Васіль Каваль.

# Маёвым вечарам.

* * *

Вечар...

У адчыненае вакно крадуцца сінія павевы вясёлага хлапца—мая.

Май хвалюецца ў сэрцы.

Кажа аб тым, што блізка і шчасьліва; гоніць з вачэй сумотнасьць...

Клюб ячэйкі поўны людзей..

Разьмясьціліся па лаўках старыя і маладыя; вочы гараць знаёмым агнём. У грудзёх подых

сьветлага,

шырокага,

як жыцьцёвага мора...

Комсамолка Алеся робіць даклад.

Самі думкі ва ўсю бязьмежнасьць з маладога сэрца ірвуцца-ірвуцца...

Кажа яна аб родным і блізкім, ды так, што слухаюць усе сэрцам...

Толькі сэрцам можна і зразумець тое, што гаворыцца ад сэрца.

...Ну, ідуць гады... Нясуць з сабою жыцьцёвае шчасьце. Былі гады, як кроўю і потам абліваліся мужыцкія разоры. А прышлі вольныя дні—

вясёлыя,

бо толькі—

жыць, ды жыць...

Ну, перамагчы жыцьцё! А калі адзін ня зможаш, дык грамадою...

Цьвітуць сады бела-малінавым цьветам, а салодкі пах поўніць грудзі шчырай ласкаю. У дзень сад прыгажэй—калышуцца, шумяць, а цяпер можна толькі адчуць красаваньне іх.

* * *

Здаецца, і ў жыцьці бывае часам нязвычайнае...

Была вясковай дзяўчынай—бойкая, вясёлая Алеся; шчокі брусьняцца і гараць агнём.

А цяпер—першай комсамолкай.

Нічога аб гэтым ня ведала.

А спадабаўся ёй вясёлы комсамолец Міхась...

У такі май, — як цьвілі сады, каласіліся жыты і гудзелі званы жыцьця—вечарам яны спаткаліся.

Расказаў Міхась аб комсамоле—шчыра, ад сэрца...

Паверыла.

А цёмны бацька ня пушчае: ня хоча рушыць старога закону, што—ой як моцна!—сядзіць у грудзёх.

Не паслухала...

Тады пацямнела бацькава воля; ніжэй схілілася галава старога. А дачка не плакала, бо моцнае жаданьне ісьці ўперад перамагала ўсё...

Цяпер — комсамолка.

А стары бацька стаў прастым і гордым, бо зразумеў вялікае слова:— Комсамол.

* * *

Любы маёвыя вечары...

Сьвецяць зоры. Шэпчуць аб каханьні лозы, што схіліліся з берага ў цёмную рэчку. Ля рэчкі чакае Міхась.

За вялікай вольхаю, што так дрымотна і млосна шапаціць лісточкамі, на зялёным дзірване, сядзіць Міхась.

Ён такі радасны і ўжо здалёк сьмяецца шчырай усьмешкай...

— Любая мая—кажа ён.—Бач, які прыгожы вечар, які ён ласкавы... Такое і жыцьцё. Толькі трэба ўмець жыць, каб не паддацца жыцьцю.

Алеся схілілася на плячо і глядзіць у цёмныя з бляскам, вочы Міхася.

— Мы з табою, Міхась, не паддадзімся, пераможам...

— Так, пераможам!—кажа Міхась і ў вачох сьвеціцца пяшчота.

Алесі здаецца, быццам яны недзе ня тут, а далёка-далёка...

Плёскае рэчка; вецярок кудлачыць кудзер чорных валос, што выбіліся з-пад чырвонай хустачкі. Узьнімаюцца тугія грудзі абоіх шчасьцем, непамерным і ціхім, як песьня пра каханьне...

А ёсьць яшчэ шчасьце ўсіх бяздольных. Яго трэба адшукаць. А яны—маладыя - ідуць сьцежкай да шчасьця ўсіх—і знойдуць яго...

Гудзіць думкамі вечар.

Вецер з-за лесу прынёс ласкавы пах хвоі і чаромхі...

Назарук Кастусь.

# Кахаю...

Кахаю Белавеж старую,
Дзе ясень з хвояю стаяць
І нібы пра пару другую,
Пра заўтра ў задуменьні сьняць.

Разводзяць суччамі убраньня,
Калышуць шапкай-галавой
І плачуць па прыгожым раньні
Срабрыстай кропляю расой.

Кахаю Нёмна вір глыбокі,
Абшарны поплаў у траве —
Кахаю край цябе далёкі,
Што Польшча „Крэсамі“ заве.

Там сьлёзы лье народ забраны,
Там кайданоў ня моўкне звон
І сьвежы так на целе раны,
І акрываўленая скронь.

В. Ланінка,
Дубровенскага раёну.

Алесь Звонак.
(Полацкая філія).

Я і сам ня знаю, я і сам ня ведаю —
Адзьвінела моладасьць, пашарэлі вочы...
Былі лятуценьні, думак рой нязьведаны,
Былі ды астылі ў зорачныя ночы...

Дзяўчына прыгожая!.. Дзяўчына забытая!..
Дзяўчына у белым з сінімі вачамі, —
Ў полі перад восеньню вяне краска дзікая —
Так і ты завянеш, так і я завяну...

І затым так холадна... Весела й нявесела,
І журба у голасе, і ў вачох стамлёнасьць.
Галаву хмялёвую часта, часта вешаю,
Не хаджу я к мілай на спатканьне к клёнам...

Для прыгожай мілай, многа мілых знойдзецца,
Дык забудзе мілая, дык і я забуду...
Ой, ты Звонак, Звонак, годзе карагодзіцца!..
Што ўжо атасьнілася, нанаў не разбудзіш.

Ну канечне, часта так-часам зьвесіш голаву,
Часам зьвесіш голаву і жыцьце ня люба.
Ад таго і чуецца боль ў разьбітым голасе
І тады ўсёроўна, што гавораць людзі.

Няхай людзі кажуць... Праўда, многа горкасьці,
Але хай гавораць, хай крычаць мяшчане...
Ах, учора стрэў я на асфальце ў горадзе
Мілую прыгожую з сінімі вачамі.

І сказаць хацелася проста так і ласкава,
Як вясной далёкай, словам кволым нежным...
Мільганулі вочы агнявымі бляскамі
І прайшла, і зьнікла у жыцьці мяцежным...

Я і сам ня знаю, і зусім ня верыцца —
Вочы не адцьвілі — агнём палыхаюць.
Не адна шчэ ўперадзе для мяне мяцеліца,
Не адну шчэ мілую ня раз пакахаю.



# Якубу Коласу

**ў дзень яго дваццацігадовага юбілею літаратурнай дзейнасьці.**

У часе вялікага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, дваццать год таму назад, пачулася першая песьня Якуба Коласа.

Абвеяны сумам па краіне, якая гібела ў ціскох чорнай рэакцыі апасьля рэвалюцыі 1905 году, песьняй жальбы чуўся тагочасны сьпеў паэты. Бо агульны настрой сялянскай Беларусі быў настроем нашага паэты, бо першая рэвалюцыя не дала яшчэ глыбокай клясавай сьвядомасьці агульнай масы на Беларусі, а нацыянальны і сацыяльны ўціск цяжкім ярмом лёг на краіну.

Радзіўшыся ў беднай сялянскай хаце (у сям'і малазямельнага лясьніка), здолеўшы з вялікай цяжкасьцю скончыць настаўніцкую сэмінарыю, Якуб Колас адзін з першых адгукнуўся на думку, якая пачала толькі яшчэ адбуджвацца—на думку культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі і сваімі высока мастацкімі творамі яскрава і праўдзіва адбіваў жыцьцё і настроі беларускага сялянства з якога вышаў сам, будзіў у ім сьвядомасьць чалавека, зваў к змаганьню за лепшую будучыну.

Будучы сам настаўнікам (застаючыся ім нават і ў сучаснасьці), Якуб Колас усе свае сілы і здольнасьць аддаваў на тое, каб сеяць асвету сярод сялянства, з якога вышаў сам, і зваў да гэтага ў свой час і усё настаўніцтва праз арганізаваны ім першы Беларускі настаўніцкі саюз.

За дваццаць год сваёй літаратурнай дзейнасьці, Якуб Колас шмат зрабіў, каб узьвесьці беларускае мастацкае слова на ўзровень іншых культурных народаў, сумеў у сваёй творчасьці паказаць вялікую прыгожасьць і багацьце беларускай мовы.

Пралетарская рэвалюцыя, якая дала новую плынь жыцьцю Беларусі, якая агульнай натугай рабочых і сялян зьнішчыла сацыяльны і нацыянальны ўціск і паставіла зараз краіну на шлях будаваньня сацыялістычнай будучыны, пазбаўляе паэту яго ранейшага суму і настрою, сваёй веліччу і магутнасьцю, разам з агульным настроем усіх працоўных мас Беларусі паступова надае творчасьці паэты новы характар, узводзіць яго на новую сьцежку.

Маладняк, які амаль першы ў беларускай літаратуры стаў на сьцежку песьняра будаваньня новага жыцьця, песьняра сацыялізму, як цьвёрда і выразна вызначаную мэту ў працы, з вялікай шчырасьцю шле сёньня сваё вітаньне паважанаму песьняру ў дзень 2-х слаўных дзесяткаў яго працы. Няхай-жа творчасьць паэты ў самым хуткім часе пойдзе той сьцежкай, па якой, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі йдзе Маладняк.

Аршанская філія Маладняка.

М. Дубовік.

# Якубу Коласу

**прысьвячаю.**

> А як песьню засьпяваюць,
> колькі ў песьні той нуды,—
> уцякаў-бы, бег здаецца,
> сам ня ведаеш куды.
>
> *Якуб Колас.*

Адплакалі песьні
халодную восень, —
лісты за лістамі —
апошні мінор.
Туман ападае
і золата — росы —
пад сонцам
прайшоўшаму толькі вянок.

Успомніцца часам:
— выходзіць жанчына
на поле, на постаць,
ой раньняй парой,
і на зажынках
сьпявае дажынкі,
быццам згубіўшы
да шчасьця дарогі. —

Гэта ўспаміны...
і гэта нядаўна,
вельмі-ж нядаўна
яшчэ так было...
Хай-жа мінуўшчыны
вобраз нямілы
лістам апошнім
спадае далоў.

. . . Усё адцьвітае,
мяняючы твар,
і толькі у песьнях —
у формах нязьменна...
Я сёньня прад імі
прыкленчыў калені,
я знаю,—ня ўсё
захаваецца ў твань.

## Прыбыткоўскі.

* * *

Ліхой ноччу ля Нёмну узрос каласок,
засьпяваў уначы сваю песьню,
гэты сьпеў шалясьцеў між трысьця і асок
— ясны сьпеў пра жаданую весну.

Шалясьцеў...
шастаў ноччу страхой саламянай,
краўся ў чорныя хаты праз комін,
і шаптаў... шаптаў на вуха сялянам,
заводзіў пра долю гоман.

Затраслося трысьцё, зашуршэлі асокі:
„каласка заглушыць трэба“,
бо ім страшна, каб ён ня узьняўся высока:
бо яны-ж не даюць нам хлеба!

Але не...
толькі, толькі пасьпелі на ўсходзе маліны,
прышла дзевак палоць чарада,
папрыходзілі дзеўкі, ня дзеўкі — каліны,
і трысьцё і асокі панесла вада.

Эх! тады...
ды на вольным полі
заківаў асьцюкамі на ўсе бакі,
узьвіў высака голас
жытнёвы колас,
на тым полі сьпяваем
і мы — каласкі.

А. Вечар.

## Якубу Коласу.

Ты узвысіў свой магутны голас
Толькі, толькі пачало сьвітаць.
Дык за гэта і за ўсё другое
Я цябе хачу, хачу вітаць.

Як і ты, я у бядоце вырас.
Цераз гэта для мяне ты — брат.
У тваіх паэмах родны выраз
Я сваёй душы убачыць рад.

У тваіх я песьнях чую гукі,
Што калісьці чуў яшчэ малым,
Калі вецер акяніцай стукаў,
Ці махаў рукамі п‘яны млын.

Гаварыў мне маладзік двурогі
Твае байкі поглядам з гары.
І пайду я песьняра дарогай...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Як маўчаць, калі душа гарыць!

Дык няхай жа залатымі днямі
Твае песьні без канца жывуць;
Цёмнай ноччу хай яны агнямі
Сьвецяць нам і ўперад нас завуць!

# БІБЛІАГРАФІЯ.

## МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ. „ГОЛЫ ЗЬВЕР“. Д. В. Б. 1926 г. 96 стар.

Ёсьць пісьменьнікі двух катэгорый: першая катэгорыя—пісьменьнікі, маючыя сваю багатую жыцьцёвую практыку; другая катэгорыя—пісьменьнікі ня маючыя багатай жыцьцёвай практыкі, але якія маюць здольнасьць назіраць.

У пісьменьнікаў першай катэгорыі, у іх творах пераважаюць псыхалягічныя развважаньні, пераборы ледзь прыметных рухаў душы і героі іх—жывыя людзі. У пісьменьнікаў другой катэгорыі надворныя адзнакі гэрояў, надворны рух пераважаюць над псыхалёгіяй і адбіваюць сабой апошнюю, хоць і ня ў гэтакай меры, як у першай.

К другой катэгорыі прачытаўшы „Голы зьвер“ трэба аднесьці М. Зарэцкага, але мы агаворымся, што ня наша мэта аднесьці яго к тэй ці іншай катэгорыі. Наша мэта зразумець на падставе вышэй-сказанага аповесьць „Голы зьвер“.

Мы прызвычаены чытаць і разумець твор так, як ён ёсьць; мы прызвычаены к фатаграфічнаму успрыйманьню ў сучаснай беларускай літаратуры. І калі з такой меркай падойдзем к „Голаму зьверу“, то чытаючы яго (ня гледзячы на тое, што некаторымі месцамі будзем захоплівацца) мы не адзін раз засьмяёмся. І засьмяёмся не таму, што яно сьмешна, а таму, што яно не адпавядае жывому факту і нават зьяўляецца іншы раз карыкатурай, гіпэрбалай на той жа жывы факт.

Як жа тады зразумець гэту аповесьць? А давайце ўспомнім, што ў Эўрапэйскай літаратуры некалі існаваў такі спосаб: калі пісьменьнік хацеў перадаць зладзейства ці дабрату, то ўсе учынкі гэрояў былі альбо зладзейскія, альбо добрыя і ніколі злодзей ня мог памыліцца ды зрабіць што-небудзь добрае, альбо наадварот.

От такія гэроі (Яроцкі і Горскі) і ў „Голым зьверы“, толькі без псыхалягічных разьважаньняў. Гэта ня значыць, што псыхалягічныя разважаньні непатрэбны і што іх няма ў Зарэцкага. Яны ў яго ёсьць, як у кожнага жывога чалавека, але ў „такім ліку“, які адпавядае пісьменьніку-назіральніку.

І такі спосаб апісаньня гэрояў пасваему каштоўны, бо аднабокай выпукласьцю ён даў магчымасьць лепш разглядзець ня толькі паразытаў-зьвяроў грамадзянства, але і іх учынкі і корні гэтых учынкаў. Горскі і Яроцкі сымбалізуюць сабой дзьве часткі грамады, дзьве пароды людзей. Толькі так зразумеўшы аповесьць можна яе правільна ацаніць.

Апрача таго, заслугоўваюць увагі: апісаньне прытону і разьмераная проза.

Усякі, хто уважна прачытае аповесьць, заўважыць, што апісаньне прытону нічога не дае, а значыць зусім непатрэбна. Бо і бяз прытону чытач уявіць сабе, што такое Яроцкі, а тут, як відна, аўтару надта захацелася паказаць гэты самы прытон і, ня глядзячы на тое, што Лідачка сама прышла к Яроцкаму, аўтар прымусіў Яроцкага схадзіць у прытон і размаляваў там усё такое, што размалявалі, як лепш ня трэба Купрын і інш., а „Голаму зьверу“ яно пашло не на карысьць, а на „перасол“.

„Разьмераная“ проза, там дзе яна арганічна выцякае з папярэдняга пакідае моцнае ўражаньне. Возьмем М. Горкага. У яго пераход да „разьмеранай“ прозы абстаўлен адпаведнымі умовамі: прыроднымі зьявамі, людзкімі настроямі і г. д.

У Зарэцкага-ж свой мэтад. Ён крычыць:

„У в а г а!“

і пачынае гаварыць нейкай раптоўна узьнятай „разьмеранай“ прозай.

Ясна, што прыём такі не мастацкі і ён сьведчыць толькі аб пачатковым пэрыядзе таго ці іншага мастака.

Відна, што і Зарэцкага не абмінула агульнае зьявішча (асабліва сучасных) пісьменьнікаў — шуканьне нечага новага. Гэта відна ўжо з аднаго, хоць і няўдалага, слова „Так“. Зарэцкі піша:

„Гэта ўсё было наладжана ў адзін дзень.

Так. Зранку Яроцкі... . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кантора якая... Так, толькі назва адна.“,

а чаму не напісаць:

„Гэта ўсё было наладжана ў адзін дзень.

Зранку Яроцкі...

Кантора якая... Толькі назва адна“.

Гэта напамінае некаторых расейскіх пісьменьнікаў. Нешта хоча гэтым сказаць чалавек, але выходзіць штучна, не натуральна, „на лад няшчасьціцца папасьці“.

І гэта яшчэ раз напамінае нам аб тым, што аўтар (у даным выпадку ня важна: ці аўтар прымае актыўны удзел у грамадзкім жыцьці ці не) аповесьці „Голы зьвер“ куды лепшы назіральнік жыцьця, чым псыхоляг і ня можа так адчуваць, як „Буланы“ конь, ды я й ня раіў бы яму гэтак адчуваць.

Усякі мастак і ўсякі чалавек ідзе па сваёй сьцежцы, творыць па свайму спэцыфічнаму мэтаду, ужывае свае прыёмы і тады прадукт яго працы гладкі, калі ён умее карыстацца сваімі арганічнымі прыёмамі і не перабіваецца на чужую сьцежку. Трэба пазнаваць сябе і памятаць: што ўсякі мэтад аднаму добры, а другому дрэнны і што чалавеку ня выскачыць са сваёй эпохі, як і са сваёй скуры.

**Прыбыткоўскі.**

# ХРОНІКА.

* Урадам СССР пастаноўлена далучыць да Беларусі Рэчыцкі і Гомельскі паветы з горадам Гомелем. Рэшта паветаў быўшае Гомельскае губэрні адыйдзе да Бранскай губэрні. Далучэньне Гомельшчыны ўзмацніць культурнае разьвіцьцё і дапаможа эканамічнаму ўзросту Беларусі.

* У Менску з 14 па 21 кастрычніка г. г. адбылася Акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. У канфэрэнцыі прымалі удзел найвыдатнейшыя беларускія дзеячы, а таксама замежныя вучоныя: ад Нямеччыны праф. Фасмэр, ад Латвіі найвыдатнейшы латвійскі паэта Ян Райніс і праф. Блэсэ, ад Літвы рэктар літоўскага унівэрсытэту Біржышка, ад Польшчы праф. Галомбэк, ад Маскоўскага унівэрсытэту праф. Растаргуеў, ад Харкаўскага унівэрсытэту дацэнт Нямчынаў, рэдактар беларускай газэты „Голас Беларуса“ ў Рызе Езавітаў, рэдактар часопісі „Крывіч“ у Коўне Ластоўскі, і шмат іншых.

Першы беларускі граматысты Тарашкевіч і другія вучоныя ў польскіх абшарах Беларусі не змаглі прыехаць, бо не атрымалі дазволу ад польскай улады—гэта зрабіла вялікае ўражаньне на канфэрэнцыю. Канфэрэнцыя прайшла з вялікім посьпехам і паказала, што беларуская навука за кароткі тэрмін існаваньня Савецкай Беларусі непараўнана ўзрасла.

Па рэформе беларускае азбукі былі ўхвалены наступныя зьмены: 1) замест падвойных літар *дз* і *дж*, якія азначаюць цэльныя гукі, зусім падобныя па свайму характару да гукаў *ц* і *ч*, увесьці асобныя літары, дзеля якіх парашылі ўзяць адпаведныя літары з сэрбскай азбукі, 2) увесьці новую літару ј на пачатку ў такіх словах як *јама* (јама) і ў канцы ў такіх словах як *мој* (мој), дзякуючы гэтай зьмене адпадзе апостраф у сярэдзіне слоў, замест п'яўка прыдзецца пісаць пјаўка, наогул гэтая зьмена робіць нашу азбуку больш фанэтычнай.

Па рэформе беларускага правапісу ухвалена: 1) ужываць заўсёды ў другім складзе перад націскам е (не пайду, не прыду) 2) ужываць як злучнік толькі нескладовае *ĭ* (твая *ĭ* мая) 3) у чужаземных словах замест ненаціскнога *о* ужываць *а*, як і ў словах беларускага кораню (заалёгія, камунізм), ненаціскное *э* ў чужаземных словах застаецца.

Пасьля зацьверджаньня ўрадам гэтыя зьмены пойдуць і ў жыцьцё.

Апроч рэформы беларускага правапісу і азбукі абгаварваліся таксама пытаньні літаратурнага характару. На гэту тэму даклады рабілі: праф. Пятуховіч, Максім Гарэцкі, Вазьнясенскі і Варшаўскі прафэсар Галомбэк.

* У лістападзе г. г. Маладняк адсьвяткаваў свой трохгадовы юбілей. Газэта „Савецкая Беларусь“ разаслала з гэтае прычыны спэцыяльны літаратурны дадатак пад назваю „Сталёвы Ўзьлёт“.

* Пры газэце „Беларуская Вёска“ таксама выдаецца літаратурны дадатак: Чырвоны Сейбіт“. Вышла ўсяго тры нумары.

* Ц. Б. Маладняка за апошні час выдала наступныя кніжкі:
—Валеры Маракоў. Пялёсткі (вершы).
—Алесь Дудар. І залацісьцей і сталёвей (вершы).

—Міхась Чарот. Ленін (паэма).
—Міхась Зарэцкі. 42 дакуманты (апавяданьні).
—Юрка Гаўрук. Вясковыя рыскі (апавяданьне).
—Р. Мурашка. Стрэл начны ў лесе (апавяданьні).

* Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі выдала:
—Ул. Дзяржынскі. Віпісы з беларускае літаратуры.
—Максім Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. 4-ае, значна перапрацованае выданьне.
—Кузьма Чорны. Пачуцьці (апавяданьні).
„ „ Хвоі гавораць (апавяданьні).

* Вышаў з друку зборнік Бабруйскай філіі Маладняка „Уздым“, а таксама чарговы нумар часопісі „Маладняк Калінішчыны“.

* Стварылася новае літаратурнае об'яднаньне „Узвышша“, у склад якога ўвайшлі наступныя таварышы: Крапіва, Зьмітрок Бядуля, Ул. Дубоўка, А. Бабарэка, Я. Пушча Кузьма Чорны і некаторыя іншыя.

* Вышаў з друку і паступіў у продаж першы беларускі насьценны адрыўны каляндар. Кошт з каляровым блянкам 32 кап.

* Юрка Гаўрук падрыхтаваў да друку пераклад з ангельскай мовы п'есы Шэкспіра „Сон летняе ночы“, а таксама рыхтуе да друку зборнік перакладаў чужаземнай лірыкі пад назваю „Кветкі з чужых палёў“.

* Аркадзь Мардвілка здаў Ц. Б. Маладняка для друкаваньня пераклад „Садоўніка“, кніжкі вядомага бенгальскага пісьменьніка Рабіндраната Тагора.

* Гурток Беларускае Культуры пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках наладзіў літаратурны суд над гэроямі аповесьці М. Зарэцкага „Голы зьвер“.

